АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

13 - 19 САКАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№11 (151)

СМАРГОНЬ

## Арэнда — па аўкцыёне

Райвыканкам зацвердзіў новае палажэнне аб правядзенні аўкцыёнаў па здачы ў арэнду будынкаў і памяшканняў нежылога фонду камунальнай уласнасці.

Гэта дазволіць павялічыць прыток сродкаў у бюджэт, бо, па-першае, жадаючыя арандаваць тое ці іншае памяшканне пры наяўнасці некалькіх патэнцыяльных арандатараў, павінны будуць прапанаваць вышэйшую плату, а па-другое, заплаціць патрэбна будзе і за ўдзел у аўкцыёне.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

АСТРАВЕЦ

## Для мілых дам

За пару дзён да жаночага дня мясцовае аддзяленне "Белаграпрамбанка" правяло розыгрыш прызоў сярод кліентаў, якія маюць рублёвыя ўклады.

Удзельнікамі латарэі сталі амаль 300 укладаў, з якіх 12 аказалася выйгрышнымі. Галоўны прыз - міксер, але былі і гадзіннікі, парасоны, кухонныя наборы. Падарункі, у большасці, атрымалі, як і мае быць, жанчыны.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Нямецкі бюджэт

Прадстаўнікі дабрачыннай хрысціянскай арганізацыі "Жыццё пасля Чарнобыля" з германскага горада Браўнфельс у цяперашні свой візіт перадалі райбальніцы 10 тыс. марак (каля 235 мільёнаў беларускіх рублёў) на набыццё медыкаментаў і інструментарыя, чым значна дапамаглі мясцоваму бюджэту. 2 урачы паедуць у Германію на стажыроўку.

Таксама госці сустракаліся з настаўнікамі, вучнямі Сугваздаўскай базавай школы і Каменскай СШ, вяскоўцамі, праводзілі адбор дзяцей для аздараўлення за мяжой.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

АСТРАВЕЦ

## Універсалы на пастах

Нядаўна мясцовы вузел электрасувязі ўстанавіў на мытных пастах "Гудагай" і "Лоша" універсальныя тэлефоны-аўтаматы. Цяпер кожны жадаючы можа з дапамогай звычайнай тэлефоннай карткі патэлефанаваць у любую краіну свету. Відавочна, што такая паслуга добрая, а таму на гэтым сувязісты не спыняюцца і ў хуткім часе ўстановяць універсальны тэлефон на пасту "Катлоўка".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МЯДЗЕЛ

## 5 за 5

Вузлянскую базавую школу прызналі лепшай у раёне сярод базавых школ. Яе ўзнагародзілі прэміяй у памеры 5 мільёнаў рублёў.

*Альберт КУМІШЧА.*

ВІЛЕЙКА

## Знакамітыя суседзі

Па дадзеных пашпартнай службы, на Вілейшчыне жывуць 4 сям'і **Міцкевічаў**, на адной - **Пушкіных**, **Цютчавых**, 10 сем'яў **Пастарнакаў**.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АСТРАВЕЦ

## Мяжы быць!

Днямі на ўскрайку Астравецкай пагранкамендатуры ўздоўж беларуска-літоўскай мяжы пачаліся работы па ўладкаванню лініі дзяржаўнай граніцы. Гэтай работай занятыя ваеннаслужачыя чыгуначных войскаў, якія размясціліся ў вёсках Лоша і Градаўшчызна.

У іх абавязкі ўваходзіць ачысціць паласу, высекчы лес. Магчыма, будзе зроблена кантрольна-следавая паласа і ўстаноўлены памежныя знакі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Становішча без выхаду



Дом №74 на Вялікім Гасцінцы капітальна рамантуюць. 80 сем'яў жывуць надзеяй 2 гады-- столькі цягнецца рамонт.

З восені перакрываюць дах, абклалі цэглай балконы. Аднак вось цуд - на першым паверсе балконы пабудавалі (раней не было), але не зрабілі выхад на іх з кватэры. Можа, цуд-балкончыкі на цэнтральнай вуліцы - новы стыль у горадабудаўніцтве?

*Аддзел інфармацыі.*

### У нядзелю ледзь не згарэў інтэрнат музвучылішча

# Ля-ля-фа - мелодыя пажару

***МАЛАДЗЕЧНА.** У мінулую нядзелю гарэў інтэрнат музвучылішча. На 4 паверсе пажарныя білі шкло, ламалі дзверы пакояў, выпускаючы дым, эвакуіравалі навучэнцаў. З 96 чалавек, што жывуць на паверсе, значная частка раз'ехалася на святы па дамах. Таму ніякай панікі не было і абышлося без смерцяў.*

Першакурсніца **Людміла І.** у ложак на ноч узяла электрагрэлку. Пад раніцу матрац, на якім спала, пачаў дыміцца. Дзяўчаты (у пакоі былі ўдвух) грэлку абясточылі, матрац крыху палілі вадою, адчынілі акно, каб праветрыць пакой. Самі сышлі да суседак. Ад прытоку кіслароду матрац успыхнуў. Агонь "зїізаў" усё, што было ў пакоі, - піяніна, халадзільнік, мэблю, адзенне. Затым выйшаў на калідор - і паверх шчыльна зацягнула дымам. Узнялася тэмпература і пацякла фарба з дзвярэй.

Нядзельнай раніцай многія яшчэ спалі. Таму самі навучэнцы падказвалі пажарным, хто дзе можа знаходзіцца. На паверсе працавала звяно газадымаабаронцаў. 14 навучэнцаў за руку вывелі па запасным выхадзе, спусцілі па аўталесвіцы. 8 спецыялізаваных пажарных машын прыехалі тушыць полымя. З-за дрэў цяжка было пад'ехаць да будынка. Выкарыстана больш за 4 тоны вады.

Дырэктар музвучылішча **Рыгор Сарока** паказаў шэраг загадаў, у якіх катэгарычна забараняецца карыстацца ў інтэрнаце, вучылішчы электранагравальнымі прыборамі ўсіх відаў, аб стварэнні камісіі для праверкі ведаў па ТБ і правілаў эксплуатацыі электраўстановак. Гады з два таму пад Магілёвам поўнасцю згарэў інтэрнат.

Работа ў вучылішчы праводзілася, і тым не менш, ЧП адбылося. Прычым напярэдадні святкавання 40-годдзя гэтай установы. Пашчасціла, што пажар узнік на выхадныя і раніцой, калі некаторыя з навучэнцаў прачнуліся.

Прыблізныя страты ад пажару (маю на ўвазе дзяржаўмасць) склалі 90 мільёнаў рублёў. Пасля размовы адміністрацыі з бацькамі пастанавіць кропку на тым, хто будзе плаціць. Бацькам 4 дзяўчынак злашчаснага пакоя прыйдзецца выкласці прыкладна па 10 мільёнаў.



Фота Сяргея Капылова.

За карыстанне электрапрыборамі ўвесь паверх "аштрафаваны" на 500 тысяч з кожнага жыхара. Рамонт плануецца зрабіць хутка, у экстранным рэжыме - за тыдзень.

*Васіль САВІЦКІ.*



## У нас рэжым...

**Ад рэдакцыі.** Ці паўторыцца пажар? Тут няма ніякай гарантыі. І ў той самы час нават для журналістаў жыццё ў інтэрнаце музвучылішча застаецца тайнай. Нашых фотакарэспандэнтаў проста не пусцілі ў сцены інтэрната яго работнікі, загарадзіўшы сабою праход. У адсутнасць дырэктара (быў у Гомелі), ніхто не можа ўзяць на сябе адказнасць, каб прапусціць у "святая святых":

— Ніхто не можа вас прапусціць у інтэрнат у адсутнасць дырэктара. Ведаеце, у нас рэжым, - словы намесніка дырэктара **Георгія Юрэвіча**.

ПАДПІСКА-98

## Таўсцеем



Кур'ер Астравеччыны

Старэйшая за век

Хочацца хоць зрэдку адчуць сябе жанчынай

Сёння нашы чытачы у Астраўцы і раёне атрымаюць "Рэгіянальную газету" з рэгіянальным укладышам. У ім можна знайсці мясцовыя маладзёжныя навіны, юрыдычную кансультацыю і парады псіхолага, фота на конкурс "Міс Астравеччына", сустрэчу са **Станіславай Іванаўнай Вайцюль**, якая нарадзілася ўапошні год мінулага стагоддзя.

Калі эксперымент пройдзе ўдала, жыхары іншых раёнаў таксама змогуць атрымліваць аналагічныя дадаткі да нашай газеты.

*Аддзел інфармацыі.*

НА КОНКУРС "ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА"

### *Вольга, Маладзечна, 23 гады, вучыцца ў Мінскім медінстытуце.*

***Ці ведаеце вы якінебудзь сакрэт пра нас, мужчын?***

У кожнага мужчыны свой сакрэт, і ўсе сакрэты ведаць немагчыма, але мужчыны вельмі няўпэўненыя ў сабе, нядумлівыя і баяцца жартаў у свой адрас.

***Самая смешная рыса характару ў мужчын.***

Гэта жаданне аказаць нейкае асаблівае ўражанне на дзяўчыну пры знаёмстве, напрыклад, паказацца разумнейшым ці дасціпнейшым, чым ёсць на самай справе.

***Любімы дзень, якога варта чакаць.***

1 студзеня. Новы год абяцае прыемныя змены, новыя сустрэчы, новыя магчымасці, здзяйсненне жаданняў. Я зноў перапоўненая аптымізмам і, адпаведна, цудоўным настроем, нягледзячы ні на што!

***Вы любіце мора?***

Ну вядома! Мора асацыіруецца з пляжам, добрым надвор'ем. Я падоўгу магу качацца на пляжы пад пякучымі праменямі і адчуваць асалоду ад таго, як сонца пясціць маё цела, і скура цямнее проста на вачах. А калі гэта дапаўняюць экскурсіі ў адкрытае мора і дэльфінарый, паход у горы і палёт на матадэльтаплане - гэта пакідае незабыўныя ўражанні!

***Як вы думаеце, чытаць газеты - неразумна?***

Ні ў якім выпадку. Газеты бываюць самыя розныя, і кожны чытач можа выбраць тую інфармацыю, якая можа яго зацікавіць.

Хаця ёсць газеты, на чытанне якіх не варта губляць час.

*Вадзім ПІСКУН.*



Фота Аляксея Фяцісава.

СТАРЫ АЛЬБОМ



ВУЧНІ ШКОЛЫ Ў КУЗЬМІЧАХ. 20-Я ГАДЫ. ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА НАТАЛЛІ МІНОШЫНАЙ

### Кузьміцкая школа. 20-я гады

**1 рад** - Мікалай Крот, Васіль Крот, Яўгенія Ардзяк, Зіна Васілеўская, Марыя Харэўка, Мікалай Кляпец. **2 рад** - Надзея Макарэвіч, Эльжбета Гардзей, Мікалай Бурак, Марыя Ардзяк, Аляксандра Васілеўская, Марыя Бялкоўская, Марыя Копач, Марыя Бялкоўская, Марыя Квяткевіч. **3 рад** - Антон Кляпец, Пётр Кляпец, Пётр Гардзей, Мікалай Бялкоўскі, Уладзімір Паўловіч, Уладзімір Крот, Васіль Ардзяк, Аляксандр Бялкоўскі. **4 рад** - Надзея Казаковіч, Вера Гардзей, Марыя Крот, Вольга Ардзяк, Марыя Бялкоўская. **5 рад** - Уладзімір Бялкоўскі, Соф'я Кляпец, Вера Харэўка, Марыя Гардзей, Надзея Бялкоўская, Вольга Бялкоўская, Марыя Ардзяк, Надзея Гардзей, Мікалай Журыха. **6 рад** - Пётр Ардзяк, Канстанцін Бялкоўскі, Іван Кляпец, Мікалай Журыха, Аляксандр Новаш, Януш Ардзяк, Міхаіл Крот, Аляксандр Крот. **7 рад** - Аляксандр Кляпец, Іван Ардзяк, Серафім Гардзей, Міхаіл Крот, Аляксандр Крот, Канстанцін Бялкоўскі. Настаўніца **Ганна ПЕТРУЧУК.**

# Сям'я настаўнікаў

**Вера Іванаўна Селівончык** (дзяв. **Петручук**). Нарадзілася ў 1897 годзе ў Куранцы на Вілейшчыне. Скончыла гімназію. У 1915 годзе, ва ўзросце 18 год, маладая выпускніца гімназіі едзе ў Кузьміцкую школу вучыць дзяцей грамаце. Прыгожая, стройная дзяўчына адразу ж знайшла шлях да сэрцаў сваіх маленькіх выхаванцаў. Дзеці, у большасці сваёй, да надыходу халодных дзён прыходзілі на заняткі босыя, з торбачкамі за плячыма, у якіх ляжалі бедныя вучнёўскія прыналежнасці і па лусце хлеба.

Настаўніцу сваю горача любілі. З вялікай павагай і пашанай у той час ставіліся да настаўніка. Пры сустрэчы здымалі шапкі і кланяліся ў пояс.

У 1918 годзе Вера Іванаўна Петручук выходзіць замуж за выпускніка Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, прыгажуна, **Аляксея Апанасавіча Селівончыка**. Сваё каханне адзін да аднаго яны пранясуць праз усё жыццё.

Пасля нараджэння дачкі маладая сям'я едзе наведаць бацькоў Аляксея Апанасавіча пад Пухавічы, дзе і застае іх Брэсцкі мір.

Выехаць дадому, у Куранец, сям'я Селівончыкаў ужо не змагла. Беларусь раздзялілася на Заходнюю, пад уладай палякаў, і Усходнюю, якая ўваходзіла ў склад Савецкага Саюза. Муж і жонка Селівончык пачынаюць працаваць настаўнікамі ў школах Савецкай Беларусі.

Сям'я пастаянна пераязджае са школы ў школу, з аднаго месца ў іншае. Пачатак рэпрэсій прымушае здымацца з месца і кідацца па ўсёй Беларусі, ратуючы сябе і дзяцей.

Што маглі чакаць ад улады людзі, мінулае якіх не ўпісвалася ў рамкі рабоча-сялянскай дыктатуры? Яна - з багатай, інтэлігентнай сям'і, якая жыла на тэрыторыі Польшчы. Ён - у час першай Сусветнай вайны паручык царскай арміі. Але, нягледзячы ні на што, працуюць у школах з вялікім прафесіяналізмам, аддаючы любімай працы ўсе сілы і веды.

У 1923 годзе Вера Іванаўна даведваецца пра смерць любімага брата **Івана**, закатаванага палякамі ў Картуз-Бярозе. Іван быў арганізатарам першай камуністычнай ячэйкі ў Куранцы. Выхаваны, інтэлігентны, любімец усёй сям'і, ён быў наватарам у многіх пачынаннях. Такі ўдар Вера Іванаўна перанесла вельмі цяжка. Усё астатняе жыццё яна з болем успамінала пра брата.

Вялікая Айчынная вайна застае Веру Іванаўну і Аляксея Апанасавіча ў Красным, дзе яны выкладаюць у школе. Краснае бамбяць фашысты, дом, дзе жыла сям'я, згарэў.

Праз 22 гады яны вяртаюцца ў бацькоўскі дом, у Куранец. Там ужо няма ў жывых бацькоў, брата, сястры **Ганны** (на здымку са Старога альбома), таксама настаўніцы. Разбураны дом.

У час фашысцкай акупацыі, рызыкуючы жыццём, Вера Іванаўна з мужам выратоўваюць яўрэяў ад спальвання. Многім вядомае страшнае месца ў канцы вуліцы ім. Папаніна ў Куранцы, дзе фашысты здзяйснялі д'ябальскія злачынствы над яўрэямі.

Пасля вызвалення Беларусі ад фашыстаў Селівончыкі збіраюць дзяцей з Куранца і бліжэйшых вёсак і пачынаюць вучыць грамаце. У 1948 годзе яны - першыя настаўнікі Куранецкай школы.

Высокае пачуццё абавязку і прафесіяналізм настаўнікаў ад бога гэтыя людзі пранеслі праз усё сваё жыццё. Не адно пакаленне вучняў з пачуццём павагі і падзякі ўспамінае Веру Іванаўну і Аляксея Апанасавіча Селівончыкаў, якія разам са сваімі вучнямі зрабілі першыя крокі ў цудоўны свет ведаў.

*Наталля МІНОШЫНА.*

КУЛЬТУРА

## Паглядзі на каравай

**МЯДЗЕЛ.** За 20 гадоў існавання народны фальклорны калектыў "Вузлянка" з вёскі Вузла 10 разоў здымаўся на беларускім тэлебачанні. Нядаўна 6 удзельнікаў калектыву разам з кіраўніком **Алай Шыла** на БТ у юбілейны раз паказвалі абрад "каравай".

*Альберт КУМІШЧА.*

## Рыхтуюць лыжкі

**ВІЛЕЙКА.** Узорны дзіцячы фальклорны калектыў "Вілякі" школы-інтэрната павязе ў сталіцу аж 2 свае нумары: хлопчыкі выканаюць кампазіцыю на лыжках, а **Віталь Сімарад** праспявае "Грайце, музыкі".

На занальным конкурсе-аглядзе "Мы родам з дзяцінства", што прайшоў у Пяршаях на Валожыншчыне, сярод удзельнікаў (6 школ-інтэрнатаў) спадабаліся найбольш вілейчане.

*Алена ІРЫСАВА.*

## Медыцынскія кветкі

**МАЛАДЗЕЧНА.** За 2 дні 3 канцэрты далі навучэнцы і выкладчыкі сярэдняй школы мастацтваў сваім шэфам - раённаму вузлу сувязі, друкарні. Таксама іх запрасілі на выступленне ў гарбальніцу. Па словах удзельніц, найбольш падабалася ў медустанове. Там, акрамя апладысментаў, дарылі яшчэ і кветкі.

*Аддзел інфармацыі.*

ПЕРАВАГІ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

# Пад трыма коўдрамі

***МАЛАДЗЕЧНА. З таго часу мінула 4 гады. Радаваліся мае сябры - сям'я афіцэра, калі атрымалі ордэр на кватэру ў доме №1 па завулку Маладзечанскім.***

Ну і што, што на шостым паверсе, затое дом класны і размешчаны ў нядрэнным раёне. Дзевяціпавярхоўка іх проста каля вайсковай часці, мужу да работы рукой падаць. Аўтобус побач, у любы пункт дабрацца можна, да магазінаў недалёка, ды і цішыня сярод прыватных дамоў. Два дамы ўсяго шматпавярховых. Раён задавальняў на ўсе сто. Але разам з перасяленнем пачаліся "блуканні па пакутах".

У новым доме батарэі ацяплення чамусьці схаваныя ў сценах, каб і хацеў боцікі ці шкарпэтачкі пасушыць пасля дажджлівага надвор'я ці снегу, то нічога не атрымаецца. Мала таго, што батарэй не адшукаеш, дык у перыяд ацяплення жылля вобмацкам іх не знойдзеш. А тое месца, дзе яны павінныя быць, такое "цёпленькае", што рукі да сцяны прымярзаюць. На вуліцы -30, у кватэры +5, вады гарачай няма, ліфт не працуе.

Папакутваў народ, ды і пачаў пісаць скаргі. Праз невялікі час высветлілася, што жыхары дома не адзінокія ў сваіх бедах, не толькі яны мерзнуць ды гарачай вадой не карыстаюцца, поўнасцю аплачваючы паслугі, якіх няма. Салідарныя з імі і жыхары суседняй 5-павярхоўкі па Замкавай. Яны без выгод, аказваецца, жывуць яшчэ даўлей. Ледзяная вада, праўда, ёсць, санвузлы працуюць, газ і святло ў парадку. А вось цяпла ў кватэрах у зімовую сцюжу няма.

Аб'яднаді жыхары двух шматпакутных дамоў намаганні і пачалі скардзіцца разам. Больш за год таму пісалі ў адміністрацыю прэзідэнта. Атрымалі станоўчы адказ ад старшыні выканкома **С. Татарыновіча.** Дамы павінна ацяпляць кацельня станказавода, паліва, 824 т мазуту, атрымана, горача не будзе, але жыць можна.

Вайскоўцаў нічым не здзівіш, звыклы да невыгоднасцяў народ, па трыццаць разоў пераязджалі ў свой час з кватэры на кватэру, з горада ў горад, паматаў лёс. А тут такое шчасце, уласная катэра, для многіх - першая ў жыцці. Нарэшце, і "карані" пусціць можна. Для многіх сем'яў вайскоўцаў Маладзечна стала домам родным. Хай, вырашылі, можа, у наступны ацяпляльны сезон да лепшага паверне, пацерпім. І зноў пачалі спраўна ўносіць плату за жыллё і паслугі.

Праўда, спалі ў халодныя дні ў шапках-вушанках ды валёнках пад трыма коўдрамі. Ішоў час, а цяплей у доме не станавілася. Скардзіцца працягвалі, спадзеючыся на тое, што ўлада для таго існуе, каб вырашаць пытанні, а не адпісвацца і даказваць, што пры +6 можна жыць. 18 сакавіка мінулага года тэмпература ў кватэрах +10 +12. Да прыкладу: 14, 15, 16, 17, 18 сакавіка на вуліцы -5, а тэмпература батарэй 0. Гарачай вады няма. Калектыўны ліст у Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, зробленая выбарачная праверка тэмпературы паветра, +18+21. Адпавядае патрабаванням будаўнічых нормаў і правілаў. Гарачая вада была ва ўсіх кватэрах.

У лістападзе 1997 г. у кватэрах устанавілі цеплалічыльнікі.

31 снежня "Камунальнік" выдаў даведку **Ф. Яўсеевай**: ў сувязі з недастатковай падачай цепланосьбіта з кацельні станказавода (тэмпература вады складае 38-40 градусаў), тэмпература ў кватэры была 8-10 градусаў цяпла. Цяплей у кватэры ад даведкі не стала. Мерзніце далей. З Новым годам!

Можна назваць вялікую колькасць людзей - у каго холадна, у каго чорныя сцены ад пастаяннай вільготнасці. Але паціху час ідзе наперад і нешта мяняецца ў лепшы бок. Жыльцы двух дамоў будуць аплачваць за цеплаэнергію і гарачую ваду, яна цяпер з'явілася, дзякуючы намаганням новага дырэктара станказавода **В. Рудзько**, па паказаннях лічыльнікаў. Жыхары спадзяюцца, што гарадскія ўлады дапамогуць яму ў набыцці паліва, а не будуць рэагаваць на скаргі кантрольнымі праверкамі, загадзя ведаючы, што без паліва і цяпла няма.

Але пакуль высокія чыноўнікі не зразумеюць, што клопат пра чалавека - першачарговая справа, і для гэтага яны пастаўленыя, да таго часу ніякія скаргі людзей не будуць дзейсныя, у якія б міністэрствы яны ні пісалі.

*Тэафіля КАРПІНСКАЯ.*

ТАПАНІМІКА

# Шылавічы

***Вілейчанам добра вядомы прыгарадны пасёлак Шылавічы, але яшчэ пры Польшчы гэтага населенага пункта не было. На яго месцы размяшчаўся гасподскі двор Тэклінаполь. Гэтая назва складаецца з двух слоў: "Тэкля" - беларускае жаночае імя і "поль" (ад "поліс"), што па-грэчаску "горад". Такім чынам, назва расшыфроўваецца як горад Тэклі.***

Такія назвы на тэрыторыі Расійскай імперыі, у тым ліку і Беларусі, пачалі сустракацца з XVIII ст., калі расійскае грамадства захаплялася грэчаскай культурай. Напрыклад, Сімферопаль, Севастопаль, Марыупаль, Фаніпаль.

Ад гасподскага двара ў наш час захаваліся два будынкі. Адзін, у якім раней была стайня, знаходзіцца на тэрыторыі Сельгастэхнікі і выкарыстоўваецца пад майстэрню. Другі некалі быў панскім домам, а цяпер выкарыстоўваецца ў якасці інтэрната для рабочых.

Цікавую гісторыю расказаў мне адзін паважаны жыхар суседняй вёскі Баранцы. Пры Польшчы недалёка ад панскага двара каля шляху з Вілейкі ў Нарочу ля старой велізарнай грушы стаяла карчма з пастаялым дваром. Пастаяльцам пад вялікім сакрэтам паведамлялі пра падземны ход, які, быццам бы, вёў з панскага палаца ў вёску Макаўе (цяпер прыгарад Вілейкі), і што ў ім схаваны вялікія каштоўнасці.

Апошні ўладальнік двара зваўся **Вацэк Шылаў**, ад яго прозвішча і атрымаў назву пасёлак, які вырас абапал гасподскага двара.

*Ігар КІЦІКАЎ.*






ФРАГМЕНТЫ З ДАВАЕННАЙ І СУЧАСНАЙ КАРТЫ. ЗЛЕВА-- ТЭКЛІНОПАЛЬ. СПРАВА-- ШЫЛАВІЧЫ.

АСТРАВЕЦ

# "Сталоўка" для аўто

***Ва ўладальнікаў аўтамабіляў з'явіцца (ёсць такія спадзяванні) цудоўная магчымасць "падсілкаваць" сваіх чатырохколавых сяброў на новай аўтазапраўцы. Гэта будзе даволі зручна, бо цяпер ім прыходзіцца ездзіць у Гудагай альбо ў Філіпаны.***

З мінулага месяца мясцовая МПМК-158 займаецца будаўніцтвам аўтазапраўкі на ўездзе з Ашмянаў у райцэнтр. Заказчыкам выступае "Смаргоньнафтагаз". Абыдзецца гэтая задума больш чым у 20 мільярдаў рублёў. Акрамя запраўкі будуць дзейнічаць пункт тэхабслугоўвання і кавярня.

Як хутка будзе пабудаваная аўтазапраўка, начальнік МПМК-158 **Уладзіслаў Родзь** прагназаваць не ўзяўся, бо заказчык пакуль не заплаціў ніводнай тысячы. А як плацяць, так, напэўна, і будуюць.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

# Кур'ер Астравеччыны

№1, САКАВІК 1998 ГОДА

Сямейна-маладзёжны, забаўляльны ўкладыш для Астравеччыны

*Прывітанне, шаноўныя чытачы!*

**Пачынаючы з гэтага нумара для жыхароў Астравеччыны будзе перыядычна выходзіць укладыш да "Рэгіянальнай газеты" "Кур'ер", падрыхтаваны карэспандэнцкім пунктм у Астраўцы.**

**Вы зможаце прачытаць матэрыялы пра сям'ю, узяць удзел у разнастайных конкурсах. Школьнікаў запрашаем паведамляць аб цікавых падзеях і навінах школьнага і маладзёжнага жыцця, пішыце аб хвалюючых пытаннях.**

## КУПОН ЧЫТАЧА "Кур'ера"

Імя ____________________

Прозвішча ____________________

Адрас ____________________

____________________

____________________

Вам неабходна да 15 красавіка выслаць гэты купон на адрас: 231210 Астравец, вул. Партызанская, 17.
На канверце пазначце: "Кур'ер".

**Шчасліўчыка чакае падарунак**



КОНКУРС "МІС АСТРАВЕЧЧЫНА"



"Міс Астравеччына" - гэта конкурс для ўсіх дзяўчат. Іх здымкі, прыгожых, мілых, сімпатычных, будуць упрыгожваць старонкі нашага ўкладыша. А самая-самая атрымае ў канцы года падарунак.

Здымкі дасылайце на адрас: 231210 г. п. Астравец, вул. Партызанская, 17.

Першая прэтэндэнтка на званне "Міс Астравеччына" - Тамара Сяргей.

## Старэйшая за век

***У чым бывае сакрэт даўгалецця? Вельмі прыемна сустрэць сёння пажылага чалавека ў ясным розуме і добрай памяці. Сустрэча з жыхаркай Астраўца Станіславай Іванаўнай Вайцюль яшчэ раз даказвае, што старасць і ўзрост - паняцці не заўсёды ідэнтычныя. У далёкім 1900-м, ранняй восенню, з'явілася яна на гэты свет, каб смяяцца і плакаць, спяваць і працаваць, гадаваць дзяцей. Адным словам, выконваць сваё прызначэнне на зямлі.***

Нягледзячы на груз пражытых гадоў, С. І. Вайцюль і сёння рухавая і ў гаворцы дакладная. І памяць яе па-ранейшым ўчэпістая і багатая. За свае няпоўныя 98 год сабрала яна ў той памяці цэлую нізку падзей: цікавых і не надта, лёсавырашальных і непрыкметных, сумных і вясёлых...

З усягэ свайго жыцця Станіслава Іванаўна добра запомніла страх і голад. Яно і не дзіўна, маладым з урокаў гісторыі добра вядома, што гэта былі за гады. Сведкай дзвюх войнаў давялося ёй быць. Але наўбольш палохала першая сусветная. Полацкі тракт, на якім стаяла родная вёска Станіславы Іванаўны, ва ўсе гады бурліў падзеямі. Два разы ішлі з захопніцкімі планамі па ім немцы ў гэтым стагоддзі. А захопнік ён і ёсць захопнік - хавай, люд, усё, каб не забралі апошняе, хавайся сам, каб дом абышло гора. Ды не абыходзіла, у адну з навал згарэла родная вёска Станіславы Іванаўны.

А хто са старых людзей не зведаў голаду?! Усе, хто нарадзіўся ў пачатку веку, жылі ўпрогаладзь. Елі зацірку з ліпавага пілавіння, а затым пакутвалі ад жорсткіх хвароб. Працавалі на пана, а вось вучыцца не выпадала. І хоць здольнасці былі, не давялося спасцігнуць вялікую навуку, толькі-толькі распісацца ды прачытаць шыльду навучылася жанчына. Затое спасцігла яна іншае ў гэтым жыцці - не заўсёды сыты страўнік азначае бесклапотнае і лёгкае жыццё. Акрамя яго, ёсць у чалавека і сумленне, і годнасць, і шчырасць душы.

Усе гэтыя якасці ёсць у Станіславы Іванаўны Вайцюль. Гэтае ж сумленне абавязала маладую дзяўчыну выйсці замуж за швагра-удаўца, каб ахінуць цяплом дзвюх яго сірацінак. Ці кожны пайшоў бы на такое? А яна пайшла, дапамагла яму не толькі падняць гэтых дзетак, але і яшчэ шасцёра нарадзіла - на гэтым жа свет стаіць. Праўда, сёння жывыя толькі чатыры дачкі, з якіх адна з тых сірацін-пляменніц. Усе яны любяць сваю матулю, шкадуюць яе, дапамагаюць ёй у сённяшнім нялёгкім жыцці. [illegible] сёння, не зважаючы на беды і клопаты, што былі з ёй усё жыццё, жанчына лічыць сябе шчаслівай.

Прыйшла мудрасць, усё аб чым марылася, у большасці сваёй, збылося. І сёння свой сакрэт даўгалецця баб[illegible] Стася тлумачыць сваёй пра[illegible]цавітасцю, сваім плёнам жыц[illegible]ця ў выглядзе чатырох дарос[illegible]лых дзяцей, дзесяці ўнукаў, трынаццаці праўнукаў і нават прапраўнука. Хіба ж гэт[illegible] дарэмнае жыццё?

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ**

ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ

***Гэтая рубрыка стане, спадзяемся, добрым дарадчыкам для тых нашых чытачоў, каго хвалююць тыя ці іншыя юрыдычныя пытанні альбо непаразуменні. А падрабязныя адказы і тлумачэнні будзе даваць намеснік пракурора Астравецкай раённай пракуратуры Анатоль ІВАНЮК.***

## 5 "лімонаў" за прастытуцыю

***- Якая адказнасць прадугледжаная за занятак прастытуцыяй?***

**В. і Н.**



Адказнасць за занятак прастытуцыяй прадугледжаная артыкулам 162 (частка 1) Кодэкса РБ аб адміністрацыйных парушэннях. Так, здзяйсненне такіх дзеянняў прадугледжвае папярэджанне ці штраф у памеры да 10 мінімальных зарплат. І далей. Калі знойдуцца тыя, хто пажадае заняцца прастытуцыяй паўторна на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага пакарання, штраф можа скласці амаль 20 мінімалак.

ЗАКАНЧЭННЕ НА СТАР. 4Б.

МАНАЛОГ

## Хочацца хоць зрэдку адчуць сябе жанчынай

***Ты пытаешся, што такое каханне і ці існуе яно наогул?.. Каб мне цяпер было гадоў 17-18, то сумненняў ніякіх бы не ўзнікала. Адназначна сказала б, што ёсць. Але з вышыні пражытых гадоў усё цяжэй і цяжэй з упэўненасцю на гэта адказаць. Хаця ёсць за плячыма жыццёвы вопыт, здаралася пабываць у розных сітуацыях, але, магчыма, гэта і нараджае сумненні. Можа, людзі выдумалі гэта для сябе як штосьці ўзвышанае, незямное, як сінюю птушку ці рай...***

Мне за сваё жыццё падабалася многа хлопцаў. І толькі адзін з іх (акрамя мужа) застаўся ў памяці і да сённяшніх дзён. Мне было толькі 19 год, мы вучыліся ў адным тэхнікуме. Разам хадзілі на заняткі, на апошнім курсе сядзелі за адной партай, разам рыхтаваліся да экзаменаў.

А вечарамі, калі ў інтэрнатаўскім пакоі ўсталёўвалася цішыня, бо мае сяброўкі разбягаліся ў кіно ці на дыскатэку, мы заставаліся ўдваіх. Саша, так яго звалі, любіў апавядаць пра сябе, свае захапленні, пра вясёлыя і зусім сур'ёзныя жыццёвыя рэчы. І яшчэ... марыў. Словамі ён, нібыта той мастак пры дапамозе фарбы і пэндзля, маляваў нашу будучыню, у якой павінна было быць усё добра і прыгожа. У такія хвіліны мне здавалася, што ўсё так неўзабаве будзе і далейшае сваё існаванне без яго ніяк не ўяўляла. А ў той момант, калі мы пачалі планаваць дзень нашага вяселля, Саша паехаў дамоў, і я яго больш не бачыла. Тыя дні без яго і цяпер успамінаюцца, як штосьці чорнае, смяротна-тужлівае. Я плакала і не адзін раз задавалася пытаннем: "Чаму так пабудавана жыццё?" Адказу так і не знаходзіла.

Праз колькі тыдняў ён патэлефанаваў: "Я захварэў, мне ўжо не дапаможа ніхто. Не хачу псаваць тваё далейшае жыццё, бо ведаю, што ты ад мяне не адмовішся, нават ведаючы ўсю праўду". І ўсё.

Менавіта ён і быў тым адзіным чалавекам, якога я вельмі часта ўспамінаю і цяпер. Гэта быў цудоўны час і самае-самае прыгожае, што было ў мяне ў жыцці. Успамінаю, нават нягледзячы на тое, што жыццё пасля тых яго слоў страціла сэнс, доўгі час я ні з кім не хацела бачыцца і гаварыць. Але з цягам часу ўсё прайшло, улеглося.

Праз два гады я выйшла замуж. Выйшла, як прынята гаварыць, па каханні. Так мне здаецца, а магчыма, гэта проста было захапленне. Увогуле, тады адбывалася ўсё так, як звычайна бывае ў дваццацігадовым узросце: доўгае чаканне, сустрэчы, размовы - і ўсё так цудоўна. Але шкада, што ўсё так хутка адышло ў мінулае. Сёння з дня ў дзень ён прыходзіць з работы "заліўшы вочы", часта здараюцца сваркі, бойкі... У такія хвіліны так хочацца ўсё кінуць, на ўсё махнуць рукой... і нават яму здрадзіць. Хаця дагэтуль нічога падобнага не было, але, напэўна, калі б сустрэла чалавека, які б адпавядаў маім патрабаванням, - не піў бы гарэлкі, быў свабодны, з павагай адносіўся да мяне - то я адважылася б на такі крок. Бо так хочацца адчуць сябе не толькі гаспадыняй, маці, жонкай, але і жанчынай - жаданай, каханай. Хоць зрэдку... Але заўважу: змагла б здрадзіць фізічна, але не кінуць сваю сям'ю. Кажу так таму, што, нягледзячы на штодзённыя, часам невыносныя сямейныя цяжкасці, не магу пера[illegible]рэсліць дзесяць год сумесна[illegible] жыцця. А дзеткі? Што і як і[illegible] у такім выпадку сказаць пр[illegible] некалькі год?

...Ці ёсць каханне? Напэў[illegible]на, ёсць. У людзей багаты[illegible] якіх не турбуюць сённяшн[illegible] праблемы, і ў астатніх, што [illegible] звязалі сябе шлюбнымі вузам[illegible]. Вось толькі калі пражыве[illegible] дзесяць нялёгкіх год сяме[illegible]ным жыццём, то пра ўзаемн[illegible] каханне гаварыць нават сме[illegible]на. Асабіста я ў гэта ўжо [illegible] веру і не чакаю немагчыма[illegible]. Але я буду цягнуць гэтую ля[illegible]ку ўсё жыццё - дзеля сям[illegible] дзеля дзяцей. Як і большас[illegible] нашых жанчын.

**ЛЮДМІЛА**

ПЫТАННІ ДА ПСІХОЛАГА

# Як гэта зрабіць?

***На пытанні астраўчанаў адказы дае псіхолаг Астравецкай СШ №1 Алена ЧАСНОЙЦЬ.***

***- Мая дачка мае 9 гадоў, але яшчэ не запыталася ў мяне, адкуль бяруцца дзеці. Ці павінна я распачаць размову на гэтую тэму альбо спакойна чакаць, пакуль яна не запытаецца сама?***

Алена, 29 год.

***1. Паважаная Алена!***

Адкладваць надалей размову з дачкой не трэба, бо Вы і так ужо крыху спазніліся. Распачынаць размову "Адкуль я ўзяўся" трэба з дзіцячага садка. Але не звальваць, як гэта традыцыйна робяць некаторыя бацькі, на бусла, капусту ці краму. Правільны адказ адзін - праўда. Без асаблівых дэталяў, без пасвячэння ў механізм узнікнення цяжарнасці. Можна прапанаваць прыкладна такую схему:

- Калі мама і тата вельмі кахаюць адзін аднаго і жадаюць, каб у іх было дзіця, яны моцна прыціскаюцца адзін да аднаго, і ад гэтага ў мамы ў жывоціку з'яўляецца маленькі чалавечак. Ён паступова расце, і таму жывоцік становіцца вялікі (ты ж бачыў такую цёцю на вуліцы, у яе таксама ў жываце расце дзіця). А калі дзіцятка падрастае, мама едзе ў бальніцу і ўрач дастае яго з жывоціка...

Як правіла, дашкольнікаў такі адказ задавальняе.

***- Вось ужо год, як я сустракаюся з адной замужняй жанчынай. Нядаўна прызналіся адно аднаму ў каханні. Яна незадаволеная сумесным жыццём з мужам, бо той часта п'е, а адзіная вартасць - высокі заробак. Аднак, калі запытаўся ў Ані, ці намераная яна развесціся, яна нічога не адказала. Ці яна хоча жыць з алкаголікам, ці са мной?***

Сяргей, 24 гады.

***Паважаны Сяргей!***

Дакладны адказ на гэтае пытанне Вы атрымаеце толькі ў Ані, калі праявіце больш рашучасці і настойлівасці і ўсё ж такі высветліце: ён ці я.

Але той факт, што Аня не дала адказу, насцярожвае. Тут трэба ўлічваць некалькі акалічнасцяў: ці ёсць у Вашай каханай дзеці, а калі ёсць, ці зможаце Вы замяніць ім бацьку; ці зможаце забяспечыць Аню матэрыяльна (гэта не апошняя справа ў наш цяжкі час) і, нарэшце, Вы павінны быць упэўнены ў сваёй выбранніцы на ўсе сто: што ў адзін прыемны момант Аня не вернецца да мужа, які п'е, але мае шмат грошай.

Памятайце, што "лодка кахання" можа нечакана разбіцца аб бок паўсядзённага быту. "Жаніцца - гэта значыць напалову паменшыць свае правы і ўдвая павялічыць свае абавязкі" (А. Шапенгауэр).

***- Мой муж алкаголік. Пра гэта спрабую нікому не гаварыць, толькі некалькі самых блізкіх родзічаў ведаюць, што я перажываю. Нядаўна змяніла працу, але цяпер са мной працуе знаёмая, якая ведае***



***пра маю прблему. Таму вельмі баюся, каб у хуткім часе ўсе супрацоўнікі не даведаліся пра гэта. Хацела б пазбегнуць сораму. Як гэта зрабіць?***

Валянціна, 40 год.

***Паважаная Валянціна!***

Мне здаецца, што Вы дарэмна хвалюецеся. Калі на новым месцы працы Вы праявіце сябе як выдатны спецыяліст, добразычлівы чалавек, то калегі толькі паспачуваюць Вам, даведаўшыся, што Ваш муж п'е.

У наш час муж-алкаголік - не рэдкасць. Вы не адна ў бядзе. Усё залежыць ад таго, як сам чалавек ставіцца да сваёй праблемы. Як справядліва зазначыў Дыяген: "Ніхто не крыўдзіць нас, акрамя нас саміх". Нам наносяць эмацыянальную траўму не людзі, што нас акружаюць, не тое, пра што яны гавораць ці аб чым прамаўчаць, а наш уласны настрой, наша рэакцыя на іх словы і дзеянні.

Не клапаціцеся моцна пра тое, што іншыя людзі думаюць пра Вас. Яны самі вельмі заклапочаныя тым, што Вы думаеце пра іх.

ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ

# Разведзены, але дзіця не пазбаўлены

*Пачатак на стар. 4а.*

***Мая ранейшая жонка, з якой мы не жывем разам, не дазваляе мне сустракацца з дачкой. Ці магу я на законных падставах якім-небудзь чынам на яе ўздзейнічаць?***

Анатоль Н. (Астравец).

Выхаванне дзяцей з'яўляецца абавязкам бацькоў. Таму, згодна з дзеючым заканадаўствам, нават калі адзін з бацькоў пражывае асобна ад дзяцей, ён мае права сустракацца з імі. Пры гэтым другі не павінен перашкаджаць. У тым выпадку, калі бацькі не могуць дасягнуць згоды ва ўдзеле ў выхаванні сваіх дзяцей асобна пражываючага бацькі ці маці, то, згодна з артыкулам 68 Кодэкса аб шлюбе і сям'і, гэта вызначаецца органамі апякунства і папячыцельства з удзелам бацькоў, зыходзячы з інтарэсаў дзяцей.

Калі ваша ранейшая жонка не падпарадкуецца рашэнню гэтага органа, вы можаце звярнуцца ў суд, які павінен вызначыць парадак удзелу асобна пражываючага аднаго з бацькоў у выхаванні дзіцяці і абавязаць другога не перакаджаць яму ў гэтым. У прыватнасці, суд вызначае, як часта будуць адбывацца сустрэчы з дзіцем (колькі разоў на месяц, тыдзень), у якім месцы (у доме маці, бацькі, у школе, дзіцячым садку, у іншым месцы) і на працягу якога часу (цэлы дзень ці некалькі гадзін).

Невыкананне ж рашэння суда пагражае пакараннем, у тым ліку і крымінальным. Акрамя гэтага, у выпадку наўмыснага невыканання рашэння суда асобна пражываючы бацька ці маці, зыходзячы з інтарэсаў дзіцяці, можа звярнуцца ў суд аб перадачы яму дзіцяці.

МЕРКАВАННЕ

# Кахаць можна толькі раз

***У маім узросце пра каханне, напэўна, думаюць усе. Ці ёсць яно і што гэта такое?***

Мне здаецца, што каханне ўсё ж такі існуе. Чаму я так думаю? Бо чалавек толькі тады адкрываецца, калі ён закаханы. Кахаць можна толькі раз за ўсё жыццё, а вось закахацца можна даволі часта. І гэта закаханасць - найлепшы стан душы, таму што свет менавіта ў такія моманты набывае іншы колер, здаецца такім прыгожым, светлым і добрым.

І перш чым пакахаць, неабходна, каб узнікла сімпатыя, узаемаразуменне. Акрамя гэтага, трэба помніць і тое, ці дастойны такога пачуцця чалавек. Існуе прымаўка, што "любовь зла, полюбишь и козла!" Я з гэтым не згодна і лічу, што кахаюць за штосьці, магчыма, за прывабнасць і не абавязкова прыгажосць, за розум і ветлівасць. Бо нічога не даецца нам так танна і не цэніцца так дорага, як ветлівасць.

За словам "каханне" не абавязкова павінна быць слова "секс". Цяжка зразумець тых хлопцаў, якія амаль не знаёмыя з дзяўчынай, а прапаноўваюць сябе. Ці, напрыклад, гавораць: "Калі ты мяне кахаеш, то неабходна гэта даказаць". Відавочна, цяжка пасля такіх слоў іх назваць сапраўднымі мужчынамі, бо такі павінен быць разумным, стрыманым, цярплівым і здольным жыць у наш час. Вось што азначае слова "мужчына".

Закаханасць, якая пераходзіць у сяброўства і толькі затым ці застаецца сяброўствам, ці перарастае ў каханне.

**ВАЛЯНЦІНА, 16 год.**

Матэрыялы ўкладыша падрыхтаваў **Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ**.

Карэспандэнцыю для публікацыі, свае пытанні і пажаданні накіроўвайце на адрас: Астравец, вул. Партызанская, 17.

Тэл. для даведак 22109.

МАЛАДЗЁЖНЫЯ НАВІНЫ

# Саветы

***Яшчэ ў 1995 годзе ў нашай школе быў створаны "Савет старшакласнікаў", а зусім нядаўна вучні "перахрысцілі" яго ў "Парламент". Выбралі старшыню, размеркавалі работу па секцыях і ўзяліся за працу.***

Першая секцыя - рэдкалегія. Яе ўдзельнікі адказваюць за афармленне стэндаў і актавай залы ў час правядзення разнастайных святаў. Акрамя гэтага, дапамагаюць класам у падрыхтоўцы насценгазет.

Другая секцыя завецца "Арганізатарскі сектар" і адказвае за правядзенне щкольных і класных мерапрыемстваў, займаецца падборам сцэнарыяў для іх.

У кола абавязкаў трэцяй секцыі ўваходзіць арганізацыя спартыўных мерапрыемстваў, як для старэйшых, так і для малодшых класаў, а таксама турыстычныя вандроўкі. Яшчэ адна секцыя адказвае за чысціню школы, парадак і дысцыпліну. Ёсць секцыя па абароне правоў дзіцяці, дзе кожны вучань можа раскзаць пра свае праблемы, магчыма, атрымаць парады. Але, што галоўнае - гэта тое, што любы вучань можа выказаць у "Парламенце" сваё незадавальненне тым ці іншым настаўнікам ці ўнесці сваю прапанову ў яго работу.

Карысць ад школьнага парламенту відавочная, хаця ў яго склад уваходзіць усяго 14 чалавек.

# Магнітафон і фотаапарат за веды

***Заслужыць гэтыя прызы проста. Калі табе ад 14 да 17 гадоў і ты на "выдатна" ведаеш гісторыю Астравеччыны, то праблем не будзе.***

Дастаткова толькі адразу перамагчы ў сваёй школе, ну, а зытым "бліснуць" ведамі на міжраённым першынстве.

Трэба дадаць, што падобную алімпіяду будзе судзіць адпаведна прызам салі́днае і паважнае журы, а таму, калі ёсць жаданне атрымаць адзін з прызоў - імкніцеся да гэтага, тым больш, што яны на дарозе не валяюцца.

**Андрэй МУРАШКА, Астравецкая СШ №2.**

# Не супраць чаркі

***П'янству, хуліганству, ненаведванню ўрокаў непаўналетнімі было прысвечана апошняе пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх.***

На "разборкі" выклікалася больш за 10 юнакоў, якія вымушаныя былі патлумачыць свае паводзіны. Давялося разам з імі пачырванець і іх бацькам, бо члены камісіі пацікавіліся ў іх, чаму яны ўхіляюцца ад абавязкаў па выхаванні сваіх чадаў.

Адныя бацькі заплацілі штраф, а іншыя "шчаслівчыкі" адкараскаліся папярэджаннем. Пашанцавала?

**Маркел АНДРЭЙЧЫК.**

# "Астравеччына - край мой"

"Кур'ер" запрашае ўсіх жадаючых прыняць удзел у конкурсе малюнкаў. Не важна колькі вам год, а тое, як вы малюеце. Рысункі і малюнкі дасылайце на адрас: 231210, г. Астравец, вул. Партызанская, 17.



"Мой родны кут". Рысунак Ю. Гульбіновіч, 7 кл. Гервятская СШ.



"Гродзенскі замак". Рысунак Тані Чайкоўскай, 4 кл. Альхоўская СШ.



"Вечнае". Рысунак Сашы Пляўгі, 8 кл. Кямелішская СШ.

ІМЯ

## Анжаліка Ют: "Беларусі мы не патрэбныя..."

***Чароўную Анжаліку Ют, у нядаўнім мінулым салістку Дзяржаўнага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, а цяпер удзельніцу студыі "Сябры" і аднаго з лідэраў групы "Elegant Company", сёння прасцей сустрэць у Крыме, чым у Беларусі. Памылка? Непаразуменне? Ні ў якім разе.***

- Я і сапраўды жыву, галоўным чынам, у Сімферопалі, - расказвае Анжаліка. - Па-першае, я сама родам з Крыму, па-другое, нашыя песні на Украіне карыстаюцца намнога большым попытам і папулярнасцю, чым тут, у Мінску. Там яны з дня ў дзень гучаць па радыё, кліпы круцяцца па ТВ, прычым нікому з журналістаў не прыходзіць у галаву патрабаваць у "Элегантнай кампаніі" грошы за эфіры. Наадварот, гэтыя людзі пытаюцца, колькі яны нам павінны.

***- Многія і цяпер гавораць аб вашым разрыве з Міхаілам Фінбергам, згадваючы пра такія падрабязнасці...***

- О, я ведаю. І пра тое, што ён мяне выгнаў, а я, у сваю чаргу, пачала лаяцца і пайшла, ляпнуўшы дзвярыма, і пра тое, што пасля гэтага здарэння, пазней названага плеткарамі разрывам, я пачала паліваць брудам аркестр і ўсіх тых, хто мае да яго адносіны. На самоў жа справе ў нас з Міхаілам Якаўлевічам не было ніякіх канфліктаў. Мне проста захацелася паспытаць свае сілы ў новым стылі, стаць салісткай групы "Элегантная кампанія", і я шчыра расказала пра гэта Фінбергу. А той толькі пажадаў мне ўдачы і запэўніў у тым, што, калі здарыцца штонебудзь, я змагу разлічваць на яго дапамогу. У тым ліку і на вяртанне ў калектыў.

***- Не шкадуеце аб прынятым рашэнні?***

- Ніколькі. Скажу больш: у новым стылі я адчуваю сябе цудоўна, як рыба ў вадзе. Тэхна-фолк і сама энергетыка гэтай музыкі, здаецца, зрабілі мяне маладзейшай і жыццярадаснай. Дарэчы, у хуткім часе выйдзе наш кампакт-дыск, яго рабочая назва - "Планета кахання".

***- Тым не менш, у вас быў шанц зрабіць бліскучую кар'еру опернай спявачкі, а вы ўпусцілі такую магчымасць.***

- А хто вам сказаў, што я яго ўпусціла? У мяне ж яшчэ ёсць шанц гадоў да пяцідзесяці "завязаць" з эстрадай і вярнуцца на оперную сцэну, недарэмна ж я так шаную сваё каларатурнае сапрана! (Смяецца). Да таго ж, нават на эстрадных канцэртах я калі-нікалі выконваю класічныя творы, да прыкладу, "Салаўя" Аляб'ева - нехта з паклоннікаў памятае, што, адвучыўшыся па класе акадэмічнага вакала, я працавала ў Тэатры музычнай драмы і камедыі, вось і прысылаюць мне на сцэну запіскі з адпаведнымі просьбамі.

***- Калі я не памыляюся, вы займаліся студыйнай работай з Сафіяй Ратару?***

- Так, і не толькі з ёй. Я была ў адной "тусоўцы" з такімі славутасцямі, як **Ірына Алеграва, Аляксандр Сяроў, Вячаслаў Дабрынін** і г. д. Праўда, для таго, каб дасягнуць сёння ўзроўню іх папулярнасці, недастаткова вакальных дадзеных, знешнасці і сцэнічнага майстэрства, патрэбныя яшчэ і грошы, прычым буйныя.

***- Кажуць, у вашым асабістым жыцці ў апошні час таксама адбыліся некаторыя змены?***

- Так, я рассталася з першым мужам. А наогул, я не аматар падобнага роду адкрыццяў, артыст мае права разлічваць на асабістае жыццё, куды не павінны ўмешвацца ні прыхільнікі, ні журналісты. Таму, з вашага дазволу, не буду называць канкрэтных імёнаў, скажу толькі, што сёння я шчаслівая, як ніколі.

***Спецыяльна для "РГ" Вікторыя ЗЕМСКАЯ.***

СЕКТАР СПОРТУ

## Аляксандр Кулак: "Гарадкі горшыя за кёрлінг?"

***- Вы нядаўна вярнуліся з чэмпіянату Еўропы ў Ніжнім Ноўгарадзе. Калі ласка, колькі слоў аб ім.***

- Па шэсць чалавек прадстаўлялі там Беларусь і Ўкраіну, каля пяцідзесяці - Расію. Перамаглі вопытныя прадстаўнікі поўдня краіны-гаспадара **Мікалай Нікіцін, Васіль Духанін і Уладзімір Палякоў**. Нашы лепшыя месцы - 9 і 12 (**Аляксандр Кулак і Генадзь Сушко**). Выступленне можна назваць не вельмі ўдалым, асабліва ў камандным турніры, дзе сталі толькі шостымі (першыя ўкраінцы, далей расійскія калектывы), хаця планавалася месца ў тройцы прызёраў. Ёсць аб'ектыўныя прычыны. Найбольш важкая тая, што гэта былі спаборніцтвы ў закрытых памяшканнях, у нязвыклых для нас умовах. Ну, што зробіш, калі на Беларусі няма ніводнага зала для заняткаў гарадкамі? Для 105 чалавек, што займаюцца ў маладзечанскай ДЮСШ, не зроблены нават навес для паўнацэнных зімовых трэніровак. У хлопцаў проста мерзнуць рукі, тады як у тым жа Ноўгарадзе ёсць шматпрофільная зала спарткпуба "Тарпеда", дзе прадугледжаны ўсе ўмовы. І вядучыя майстры Расіі маюць не адну такую базу для падрыхтоўкі.

***- А гэта вялікая праблема - зрабіць навес?***

- Мяркуйце самі. Вось, напрыклад, сцэна, якую ЗЛМК ставіў для песеннага фестывалю. Каб перарабіць яе на нашы патрэбы, неабходна 300 мільёнаў рублей. Дарэчы, спорткамітэт і абласныя прафсаюзы, якім належыць наша школа, абяцалі дапамагчы. Нядаўні чэмпіянат краіны праводзілі ў памяшканні СШ №2, перашкаджаючы дзецям займацца фізкультурай. Гораду патрэбная вялікая зала, дзе маглі б трэніравацца не толькі гарадошнікі, але і футбалісты, прадстаўнікі іншых відаў. Цяпер ля нашай адкрытай пляцоўкі ўзводзяцца тэнісныя корты, а да іх пэўная інфраструктура, якой і мы можам карыстацца.

***- Вы расказалі, што ў Ніжнім перамаглі вопытныя, тытулаваныя 45-50-гадовыя спартсмены. Няўжо маладзейшым цяжка з імі змагацца?***

- Так. І ў гэтым галоўная асаблівасць нашага віду. Яго адметнасць ад астатніх. Між іншым, яшчэ адна прычына, па якой мы саступаем канкурэнтам. Мне вось 37, і ў беларускай камандзе лічуся найбольш вопытным, тады як у іншых калектывах гэта ўзрост самых маладых.

***- Апошнім часам шмат размоваў, што ў праграму Алімпійскіх Гульняў уключаюцца "заморскія" віды, якія мы не культывіруем. Магчыма, гарадкі - гэта тое, што самі можам прапанаваць?***

- Сапраўды, навошта тут развіваць той жа кёрлінг? Пройдуць дзясяткі год пакуль як след навучымся пускаць па лёдзе дарагія (па спосабе вырабу) камяні. Трэба рэкламаваць свае віды, дабівацца міжнароднага прызнання. Першыя крокі зроблены. Кінарэжысёр **Сяргей Лук'янчыкаў** адзняў у Маладзечне выдатны лірычны фільм пра гарадкі. Яго з поспехам паказалі на некалькіх фестывалях. Праўда, канкурэнты не спяць. Зроблена шмат цікавых фільмаў аб нацыянальных відах спорту з розных краін. Трэба прапагандаваць на ўласным прыкладзе, выязджаць. Пакуль міжнародная федэрацыя налічвае ўсяго 9 былых савецкіх дзяржаваў. Ёсць варыянты супрацоўніцтва з Германіяй, Фінляндыяй.

***- Якія турніры ў вас наперадзе?***

- 21-26-га красавіка прымем міжнародныя спаборніцтвы памяці ахвяраў Чарнобыльскай трагедыі. Збіраем прызавы фонд. Летась ён быў нядрэнны, пераможца атрымаў 200 долараў. Вялікага прадстаўніцтва не будзе, бо турнір камерцыйны, удзельнікі ўносяць па 10 долараў. У чэрвені пройдзе Кубак Еўропы ў Мінску, праўда, там зусім дрэнна з пляцоўкамі, але, магчыма, будуць зрухі.

***- Поспехаў у вашых пачынаннях!***

- Дзякуй, што не забываеце.

***Сяргей ГАЙКОВІЧ***




*Зборную Беларусі складаюць маладзечанцы. Злева направа (верхні рад): А. Філістовіч, А. Сучко (трэнер), І. Лемантовіч, А. Кулак; ніжні рад: Г. Сушко, А. Аракчэеў.*

## Адным сказам

*** На юнацкіх (1980 года нараджэння і маладзей) Гульнях па акрабатыцы ў Віцебску перамагла добра ўжо нам вядомая "чацвёрка" з Вілейкі **Сяргей Мікуліч, Аляксандр Борсань, Дзмітрый Шамовіч і Юрый Мамай** (трэнеры- **Іван Мамай і Віктар Брыль**, харэограф - **Таццяна Літвіновіч**).

*** Смаргонскія юнакі-футбалісты 1982 г. н. занялі трэцяе месца на першынстве Гродзенскай вобласці, а маладзечанцы годам старэй былі чацвертымі на турніры ў сваім горадзе, дзе прагледжваліся кандыдаты ў зборную Мінскай вобласці для юнацкіх Гульняў рэспублікі.

*** Міжнародны традыцыйны турнір па боксе на прызы вядомага трэнера лёгкаатлетаў **З. Шырынскага** перанесены па тэрмінах і пройдзе ў Астраўцы 12-15 красавіка

*** У Вілейцы завяршыліся традыцыйныя спаборніцтвы па каратэ-до на прызы завода "Зеніт", якія сабралі каля трохсот удзельнікаў з усёй Беларусі. Шэсць першых месцаў з 19 катэгорыяў засталіся за гаспадарамі

*** З 25 лютага па 1 сакавіка ў Маладзечне прайшоў турнір на прызы трэнера **Аляксандра Сучко**, пераможцамі якога ў шасці ўзроставых катэгорыях сталі сярод хлапчукоў і юнакоў вучні СШ №2 **Павел Філістовіч, Алег Пятроў, Валерый Янушкевіч і Сяргей Зізюк**, сярод дарослых **Генадзь Сушко** і сярод ветэранаў 70-гадовы **Павел Сталбавенка**.

*Матэрыялы падрыхтаваў Сяргей Гайковіч.*

СМАЧНАЕСЦІ



## Бананавае малако

***1 л малака, 2-3 бананы, па смаку цукар, лёд.***

Бананы абабраць, пакрышыць, узбіць у міксеры з малаком і цукрам, пакуль напітак не ўспеніцца. Пасля астудзіць і падаваць у шклянцы з дадаткам лёду. Напітак можна прыгатаваць без ужывання міксеру, узбіваючы састаўныя часткі спружынным венцам. Бананы перад ручным узбіваннем пакрышыць як найдрабней.

## Шакаладнае малако

***1/2 л малака, 3 ст. лыжкі распушчальнай кавы, 2 мал. лыжачкі какавы, 2-3 мал. лыжачкі цукровай пудры, 1 яйка, лёд.***

Усе састаўныя часткі ўсыпаць у малако і добра перамяшаць, а пасля астудзіць і падаць у высокіх шклянках з лёдам. Напітак можна прыгатаваць без ужывання міксеру, узбіваючы ўручную.

Напрактыкаваўшыся ў прыгатаванні гэтых страў, можаце пафантазіраваць і паспрабаваць прыдумаць нейкі напітак на аснове малака па свайму арыгінальнаму рэцэпту. Калі атрымаецца ўдала-- дашліце яго нам.

Смачна есці!

***Наталля ГАМОЛКА.***

АДАМ І ЕВА

## 12 парад для таты

**1.** Тату не можна аглядацца на жанчын! **2.** Тата павінен добра працаваць. **3.** Павінен дапамагаць мыць посуд. **4.** Павінен рабіць частку пакупак. **5.** Не можа крытыкаваць маму. **6.** Не можа быць вельмі суровым да дзяцей. **7.** Яму не можна вяртацца вельмі позна ўвечары. **8.** Яму не можна многа піць. **9.** Яму не можна курыць. **10.** Не можна дома ўзнімаць вэрхал. **11.** Ён не можа лаяцца і крычаць. **12.** Павінен пастаянна думаць пра тое, як добра быць разам з сям'ёю!

ПАДУМАЙ ПРА СЯБЕ

## Аб леках

● Апрача жаданага эфекту лекі могуць выклікаць таксама непажаданыя вынікі. Часам у большай ступені шкодзяць, чым дапамагаюць.

● Лекі могуць узаемна ўзмацняць або зніжаць сваю эфектыўнасць. Калі прымаеш лякарствы, прызначаныя адным спецыялістам, а ідзеш з візітам да іншага, абавязкова раскажы яму, якія прэпараты ўжываеш.

● Ніякіх лякарстваў не можна ўжываць даўжэй або ў большых дозах, чым загадаў доктар. Часам бывае шкодным ужыванне меншых дозаў. Антыбіётыкі ў малых дозах не дапамагаюць выздараўленню, а наадварот, толькі загартоўваюць бактэрыі.

Дбай пра сябе!

***Аліна.***

## ГАРАСКОП 16 – 22 САКАВІКА

**АВЕН (21.03- 20.04)**
Кепскія дні **16, 17**. Важны дзень **22**. Табе трэба адведаць кагосьці хворага ў бальніцы або дома. Гэта дапаможа табе навязаць важныя кантакты, якія ўрэшце прынясуць карысць. Вялікае значэнне будуць мець стасункі з асобамі з-пад знака Цяльца, Льва, Скарпіёна. Многія з гэтых асоб могуць мець у сваіх імёнах або прозвішчах літары **Д, М, В.**

**ЦЯПЕЦ (21.04-20.05)**
Кепскія дні **16 - 19**. Важны дзень **21**. Дзякуючы блізнятам ты навучышся як лепей зарабляць і ашчаджаць грошы, будзеш стаяць перад пытаннем продажу або пакупкі нерухомасці. Справы, звязаныя з тваім сямейным становішчам.

**БЛІЗНЯТЫ (21.05- 21.06)**
Кепскія дні **18-22**. Важны дзень **20**. Поспехі ў інтэлектуальнай сферы, сексуальных справах і творчасці. Будзеш знаходзіцца ў нейкім нестандартным саюзе, які табе не надакучыць.

**РАК (22.06- 22-07)**
Кепскія дні **21, 22**. Важны дзень **19**. Справы глабальнай значнасці, удзел у гуманітарных праграмах. Вызваліўся з абавязкаў, якіх не павінен быў прымаць. Побач з Рыбамі знойдзеш шмат асобаў, якія будуць да цябе звяртацца з рознымі пытаннямі і праблемамі.

**ЛЕЎ (23.07- 22.08)**
Важны дзень **18**. Знаходзішся ў той частцы гараскопа, якая гаворыць пра знішчаныя мары, чужыя грошы, пазыку і выдаткаванне грошай. Асобы з-пад знакаў Казярога і Рака будуць адыгрываць дынамічную ролю ў тваім жыцці. У іхніх імёнах або прозвішчах могуць сустракацца літары **Х, К, З.**

**ДЗЕВА (23.08- 22.09)**
Важны дзень **17**. Станеш больш разумець у гаспадарчых справах, якія цябе турбуюць апошні час, і фінансаў увогуле, а таксама будзеш магчы больш свядома распараджацца грашыма і ўкладваць іх у справу. Адчуеш сілу і непераможнасць у фінансавых справах.

**ШАЛІ (23.09- 22.10)**
Добры дзень **16**. Важны дзень **16**. Шчасце будзе спадарожнічаць у справах здароўя і на працы, ты ў стане аддаць больш тым, каго любіш і з кім супрацоўнічаеш. Звярні ўвагу на 16-е чысло -дзень адначасова добры і важны. Не змарнуй яго! Прымай важныя рашэнні і не бойся ісці наперад у іх выкананні.

**СКАРПІЁН (23.10- 21.11)**
Добрыя дні **16 - 18**. Будзеш прыцягваць да сябе асобаў з-пад знакаў Казярога, Рака і Вадалея. Твой саюз з Вадалеем ў гэтым месяцы будзе станавіцца ўсё больш цёплым. Многае могуць сказаць табе літары **Б, К, Т.**

**СТРАЛЕЦ (22.11-21.12)**
Добрыя дні **18 - 20**. Можна смела прымаць рашэнні адносна рамантычных і сямейных спраў, бо тут будзеш надзвычай добра кантраляваць сітуацыю. На гэтым тыдні атрымаеш вялікую сілу пераканання.

**КАЗЯРОГ (22.12- 19.01)**
Добрыя дні **21, 22**. Важны дзень **22**. Высвятляцца справы з тваімі далёкімі, але важнымі планамі і інтарэсамі. Можа стацца, што раптам прыйдзецца паўтарыць сваё даўняе падарожжа, поўнае прыгод, рамантыкі, неспадзяванак. Важныя лічбы **3, 4, 2**. Не прапусці без увагі **22** сакавіка - дзень адначасова важны і добры.

**ВАДАЛЕЙ (20.01- 18.02)**
Важны дзень - **21**. Будзеш прыцягваць да сябе кагосьці з-пад знака Блізнятаў і вельмі далёкую Дзеву. Звярні ўвагу на літары **Я, Н, В**, якія сыграюць у тваім жыцці не апошнюю ролю.

**РЫБЫ (19.02- 20.03)**
Важны дзень **20**. Іншыя будуць спадзявацца на тое, што ты апынешся ў цэнтры падзей. Завяжаш стасункі з людзьмі, якіх даўно ведаеш.

